# Народная Воля

**№ 166 (1729)**

Пятніца, 5 верасня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Выдавец:
УП «Народная воля».

Кошт свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**


**E-mail: nv@promedia.by**
**http://nv.promedia.by**


### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +11...+13, дождж, уначы — +8...+10, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +13...+15, уначы — +8...+10, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +15...+17, уначы — +8...+10, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +11...13, уначы — +8...+10, на працягу сутак — без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +12...+14, уначы — +9...+11, на працягу сутак — без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +12...+14, уначы — +9...+11, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



ПУЛЬС

## Брэстчане, на старт!

У Брэсце завершана будаўніцтва лёгкаатлетычнага манежа, які ўжо названы найлепшым у Беларусі. Яго ўрачыстае адкрыццё запланавана на 26 верасня.

Як сцвярджаюць спецыялісты, брэсцкі манеж адпавядае міжнародным стандартам. Тут ёсць бегавая дарожка на 200 метраў, сектары для скокаў, для штурхання ядра і іншае. Арэну ўслалі швейцарскім пакрыццём "Каніпур". Абсталяваныя дзве трэніровачныя залы і дзве залы для цяжкаатлетаў. Ёсць сауны і бар. Манеж умяшчае 1,5 тысячы гледачоў, прадугледжаны месцы для інвалідаў.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Прыдраліся...

Гродзенскі гарвыканкам не даў дазволу гарадской радзе грамадскага аб'яднання "БНФ "Адраджэнне" на правядзенне святочных мерапрыемстваў з нагоды Дня беларускай вайсковай славы.

Як патлумачыў старшыні гродзенскай арганізацыі Аляксандру Міхальчыку юрыст гарвыканкама Валерый Шанціла, у заяве на правядзенне мерапрыемства не былі пазначаныя хатнія адрасы арганізатараў. Аднак Міхальчык лічыць, што пададзеная заява цалкам адпавядала патрабаванням заканадаўства. Паколькі заяўнікам мерапрыемства выступала гарадская рада ГА "БНФ "Адраджэнне", у заяве мусіў быць пазначаным толькі юрыдычны адрас арганізацыі.

Дзень беларускай вайсковай славы адзначаецца штогод 8 верасня. У гэты дзень у 1514 годзе войскі Вялікага княства Літоўскага на чале з гетманам Канстанцінам Астрожскім пад Оршай разбілі ўтрая большае войска Маскоўскай дзяржавы. Аршанская бітва з'яўляецца адной з самых значных перамог у барацьбе за незалежнасць беларускай дзяржавы.

**Юлія ДАРАШКЕВІЧ.**

## Сагрэем ліцэістаў!

Заняткі з навучэнцамі апальнага гуманітарнага ліцэя, якія з пачатку гэтага навучальнага года праводзіліся на вуліцы, пераносяцца ў памяшканні з прычыны пахаладання. Гаворка ідзе аб памяшканнях у Мінску, прапанаваных асобнымі арганізацыямі і людзьмі адмыслова для заняткаў з ліцэістамі.

Тым часам Камітэт абароны ліцэя заклікае грамадзян Беларусі і міжнародную супольнасць аказаць навучальнай установе матэрыяльную дапамогу. Ліцэю сёння патрэбныя грошы для арэнды памяшканняў, набыцця літаратуры і школьнага абсталявання, навучальна-наглядных дапаможнікаў і тэхнічных сродкаў навучання.

Ахвочыя могуць звяртацца па кантактных тэлефонах: **226-61-01 і 8-0296-70-30-85.**

**Марат ГАРАВЫ.**

## «Галасы зямлі» Івана Супрунчука

У Мастацкім музеі, што размешчаны на тэрыторыі мемарыяльнага комплексу "Брэсцкая крэпасць-герой", адкрылася персанальная выстава народнага майстра з вёскі Цераблічы Столінскага раёна Івана Супрунчыка.

Выстава мае назву "Зямлі роднай галасы". На ёй прадстаўленыя каля 60 работ — драўляныя скульптуры, графіка і малюнкі таленавітага майстра і цікавага чалавека. У сваёй вёсцы ён стварыў унікальны музей этнаграфіі, якому ў 2001 годзе нададзена званне "народны". Галоўныя экспанаты музея — выкананыя майстрам драўляныя скульптуры, апранутыя ў народныя касцюмы. Выстаўлены тут і ўнікальныя прылады вясковай працы, якіх няма нават у брэсцкіх музеях.

**Валянціна КАЗЛОВА.**

## Курсы замежных валют на 5 верасня

*На 5 верасня Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы замежных валют:*

1 долар ЗША — 2094,00 рублі
1 еўра — 2268,53
1 расійскі рубель — 68,34
1 аўстралійскі долар — 1338,38
1 балгарскі леў — 1165,37
1 дацкая крона — 305,45
1 СДР — 2861,93
1 ісландская крона — 25,64
10 японскіх іен — 179,17
1 казахскі тэнге — 14,13
1 канадскі долар — 1514,76
1 кувейцкі дынар — 6976,86
1 кыргызскі сом — 49,20
1 латвійскі лат — 3618,77
1 літоўскі літ — 656,99
1 малдаўскі лей — 152,96
1 нарвежская крона — 276,20
1 польскі злоты — 520,25
1 сінгапурскі долар — 1192,89
10000 турэцкіх лір — 15,08
1 украінская грыўна — 392,52
1 брытанскі фунт стэрлінгаў — 3296,79
1 чэшская крона — 69,99
1 шведская крона — 248,43
1 швейцарскі франк — 1477,09
1 эстонская крона — 144,94

СЛУЧАЙ

## Свинцовые аргументы в бане

Мужская помывка в бане в райцентре Лельчицы закончилась серьезной размолвкой. Что не поделили мужчины или чем были оскорблены, выясняет теперь милиция. Однако 30-летний Владимир, выскочив из бани вслед за обидчиком возрастом постарше, выстрелил ему из пистолета в грудь.

Потом Владимир вернулся в баню и ранил там еще одного участника помывки — местного индивидуального предпринимателя.

Когда милиция задержала Владимира, он заявил, что ничего не помнит. Не помнит даже, откуда взялся у него пистолет.

**Анатолий ИВАНОВСКИЙ.**

# У Полацк, на свята пісьменства!

Уласна кажучы, свята ўжо ідзе. 3 верасня, у сераду, са сталіцы Беларусі пачала паломніцтва (вядома ж, на калёсах) у Полацк рэспубліканская навукова-творчая экспедыцыя пад назвай "Дарога да Святыняў з Благадатным Агнём ад Труны Госпада", якая павінна прайсці праз Паставы, Глыбокае, Шаркоўшчыну, Браслаў, Міёры, Верхнядзвінск і Наваполацк.

6 верасня ў Полацку адбудзецца навукова-практычная канферэнцыя "Полацкія чытанні". 7 верасня ўдзельнікаў экспедыцыі ўрачыста сустрэнуць у Спаса-Еўфрасіннеўскім манастыры, побач з помнікам Прападобнай Еўфрасінні Полацкай. Удзельнікі вандроўкі разам з палачанамі і гасцямі горада пасадзяць Сад Малітвы.

Праз невялікі час у Спаса-Праабражэнскай царкве адбудзецца літургія.

Цэнтральным месцам правядзення свята ў горадзе вызначана плошча Свабоды. Урачыстыя мерапрыемствы распачнуцца 7 верасня апоўдні перадачай гораду Незгасальнай Лампады Духоўнасці. Полацк прыме эстафету святочнай традыцыі ад сваіх папярэднікаў — гарадоў, дзе адбываліся ўжо ўрачыстасці ў гонар Дня беларускага пісьменства. У Полацку яны, дарэчы, праводзяцца ў другі раз. У розныя гады яны праходзілі яшчэ ў Тураве, Навагрудку, Нясвіжы, Оршы, Пінску, Мсціславе, Міры.



Сцэнарыем свята, які напісаў паэт Навум Гальпяровіч, а паставіў рэжысёр Вячаслаў Панін, прадугледжана шмат цікавых і змястоўных мерапрыемстваў: літаратурныя сустрэчы, прэзентацыі новых кніг, фестываль дзіцяча-юнацкай прэсы, выставы, канцэрты прафесійных і самадзейных артыстаў, кірмаш народных рамёстваў і многае іншае. Плануецца ўрачыстае адкрыццё помніка Сімяону Полацкаму.

А закончыцца свята, як і належыць, феерверкам у начным небе над старадаўнім Полацкам.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**
**Фота Наталлі АБЛАЖЭЙ, БелТА.**

# Заявление

### президиума Совета Белорусского профсоюза работников радиоэлектронной промышленности

Министерством промышленности республики целенаправленно проводится работа по развалу Белорусского профсоюза работников радиоэлектронной промышленности. В связи с чем заместителем министра И.Золоторевичем на протяжении последних месяцев организуются встречи и совещания с директорским корпусом для ликвидации организационных структур Белорусского профсоюза РЭП.

От руководителей предприятий, в нарушение положений Закона Республики Беларусь "О профессиональных союзах", Указа президента Республики Беларусь "О развитии социального партнерства", Устава профсоюза РЭП требуют обеспечить переход первичных профсоюзных организаций РЭП в Белорусский профсоюз работников промышленности, созданный при содействии Министерства промышленности. Происходит данная активная "работа" министерства на фоне тяжелейшего экономического положения многих предприятий, низкой заработной платы и в условиях постоянного сокращения численности персонала, неполной рабочей недели, отсутствия оборотных средств и инвестиций.

Столкнувшись с противодействием большей части профсоюзного актива, вставших на защиту профсоюза РЭП, руководство Министерства промышленности занялось прямым шантажом отдельных руководителей предприятий, грозя им лишением госзаказа, непродлением заключенных с ними контрактов, отказом в загранкомандировках и т.п.

Все это делается при полном молчании со стороны руководства Федерации профсоюзов Беларуси, членской организацией которой является профсоюз работников радиоэлектроники, чьи интересы и права должна отстаивать ФПБ.

Возможно, что подобные противоправные действия — это своеобразный "ответ" белорусских чиновников и отдельных руководителей предприятий на недавнее решение Международной организации труда (МОТ) включить Беларусь в специальный параграф, так называемый "черный список" стран — злостных нарушителей прав профсоюзов, а в результате — подрыв международного авторитета государства.

Президиум Совета профсоюза РЭП считает противозаконными и недопустимыми подобные вмешательства руководства Министерства промышленности, отдельных руководителей предприятий во внутренние дела профсоюза, попытки запугивания и давления на профсоюзных лидеров и требует строгого соблюдения Конституции и законодательства Республики Беларусь, выполнения рекомендации МОТ в отношении прав профсоюзов в Беларуси, а также не оставит без реагирования ни один факт нарушений прав и законных интересов членов профсоюза.

## У Коласаўскім тэатры — сезон амаладжэння

З неблагімі перспектывамі ўваходзіць у чарговы сезон Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Я.Коласа. Плануецца адкрыццё філіяла ў Полацку. І адбудзецца гэта не праз паўгода, а заўтра, 6 верасня, у межах святкавання Дня беларускага пісьменства. У гарадскім Палацы культуры Полацка пройдзе прэм'ерны спектакль па п'есе маладога, але ўжо дастаткова "раскручанага" беларускага драматурга Андрэя Курэйчыка "П'емонцкі звер" у рэжысуры Юрыя Лізянгевіча. П'еса, адзначаная на конкурсе сучаснай драматургіі ў Маскве, пастаўлена ў Маскоўскім мастацкім акадэмічным тэатры. Юрый Лізенгевіч, адзначаючы некаторыя хібы літаратурнага матэрыялу, бачыць у п'есе не толькі напружаную фабулу, але і пэўны філасофскі сэнс.

Побач са шматвопытнай зоркай тэатра Валянцінай Петрачковай і такімі вядомымі суперпрафесіяналамі, як Галіна Букаціна, Тамара Скварцова, Тамара Кабяк і Вячаслаў Грушоў, у прэм'еры, прызначанай для паказу ў Полацку, заняты зусім маладыя Алена Ганум, Ірына Цішкевіч і Арцём Бародзіч, якія толькі сёлета атрымалі дыпломы акцёраў у Нацыянальнай акадэміі мастацтваў, дзе вучыліся без адрыву ад роднай сцэны.

Такім чынам, новы сезон тэатра імя Я.Коласа адметны амаладжэннем і драматургіі, і акцёрскага складу, і нават сцэнічнай пляцоўкі, якая, магчыма, з цягам часуператворыцца ў пастаянны тэатр у Полацку.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

## Радзівілаўскай Біблії — 440 гадоў

440 гадоў таму ў Брэсце (Берасці) была надрукаваная знакамітая Брэсцкая Біблія, альбо, як яшчэ яе называюць, Радзівілаўская.

Рэфармацыя, якая ў XVI стагоддзі ахапіла Еўропу, знайшла сваё адлюстраванне і ў жыцці берасцейцаў. Гарадскі староста Мікалай Радзівіл заснаваў кальвіністкую абшчыну, пабудаваў у горадзе сабор, а ў 1553 годзе, 450 гадоў таму, заснаваў друкарню, дзе выдаваліся кнігі на рэлігійную тэматыку. Адным з найлепшых выданняў Вялікага княства Літоўскага і лічыцца Брэсцкая Біблія, выдадзеная на сродкі Мікалая Радзівіла Чорнага.

Сёння гэтае выданне — рарытэт. Азнаёміцца з нешматлікімі асобнікамі можна ў бібліятэках Масквы, Вільнюса і Кракава. У Беларусі захаваўся няпоўны экземпляр Брэсцкай Бібліі — у фондах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа.

Загадчыца аддзела краязнаўства Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М.Горкага Таццяна Кавенька паведаміла БелаПАН, што ў выставе, прымеркаванай да Дня беларускага пісьменства, ёсць раздзел, прысвечаны Брэсцкай Бібліі.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

ГЛАС НАРОДА

# Разве мы можем пойти в дорогие магазины?

Мы с мужем пенсионеры, он к тому же инвалид второй группы. Имеем так называемую дачу в четыре сотки. Обрабатываем землю и собираем неплохой урожай. Но вот потребовалась замена электропроводки. Нужно более 70 тысяч рублей. За участок в текущем году требуется отдать 56 тысяч рублей.

Решили оплачивать в три приема. Но придется сократить расходы на питание. На чем сэкономить? Надо исключить мясо из рациона, обойдемся костями по 1860 рублей за килограмм. Рыбу дешевую — минтай, путасу — слава Богу, можно покупать в частных киосках. Чай, кофе, бульонные кубики также в киосках, так как сегодня именно в киосках самые дешевые товары. Там же отовариваемся стиральным порошком, хозяйственным мылом, краской для волос, наконец, туалетной бумагой.

Так мы с мужем спланировали свои расходы, решив, что дачный участок за собой нужно сохранить и на лавочку у подъезда нечего переезжать.

При экономическом раскладе магазины в расчет не брались. Почему? Да потому что цены там кусаются. Мы ходим практически в один гастроном № 8, что по ул.Я.Мавра. В том гастрономе дешевого кофе нет вообще, а тот, что имеется, в два раза дороже, чем в киосках. Более или менее приличный "Neckafe" (100 г) стоит 6450 рублей, в киосках — 3800, он же в упаковке 200 граммов — 14.790 рублей, а в киосках — 7950. Бульонные кубики в магазине 140 рублей, в киоске — 100 за штуку. Так же обстоит дело с чаем.

А рыбные витрины в гастрономе как будто издеваются над покупателем. Рыба какая-то скрюченная, вид ее совсем непотребный, думаю, кошка не будет есть такую рыбу. Но цены внушительные. Минтай, например, стоит 3950 рублей, а в киоске — только 3150, путасу — 1320 рублей, в киоске — 1140. Причем в киоске на рыбу любо-дорого посмотреть. А почему дети толкаются у киосков за разными жевательными резинками, сладостями? Да потому что они дешевле, чем в магазинах.

Пенсионеры давно открыли для себя этот маленький источник экономии. Теперь ведь и на рынках все подорожало. И мы радовались, что есть предприимчивые люди, которым выгодно продавать дешевый товар и которые расположили свои торговые точки в удобных для людей местах; что не надо стоять в очередях, все можно купить мимоходом.

Каково же было недоумение и досада, когда однажды эта живая и разноцветная торговля прекратилась. Мы увидели закрытыми все киоски в нашем Фрунзенском районе. Было ощущение, что нас вдруг обокрали. Но кто и за какие прегрешения? И я понимаю ругающихся парней, которым по пути на работу негде стало купить сигарет, бутылку воды или банку пива.

Вот вам и вера в обещания власть предержащих, вот и рухнувшая надежда сэкономить деньжат для дачного участка.

Говорят, уберут киоски, так как они портят вид города. А вид нищих, обездоленных пенсионеров этих господ не беспокоит? Разве нам прибавили пенсии, чтобы мы пошли в дорогие магазины, а теперь и на дорогие базары? Или наоткрывали мелких магазинчиков на каждом шагу, чтобы мы могли отовариваться, как в киосках? Говорят, киоски — это нецивилизованно. Что же, если киоски убрать, мы сразу станем все цивилизованными? Разве так надо идти к цивилизации?

Уж конечно, те, кто принимал это дикое решение, даже не подумали о людях, о бедных людях. Ясно, что для богатых эти киоски ни к чему. Но я бы хотела знать, что я, пенсионерка, получу теперь взамен, когда уберут последний киоск, так как потом меня может уже и не быть. Я так понимаю, что надеяться на что-то и ждать чего-то уже не приходится. Так что же нам, беднякам, делать, господа хорошие из Минского горисполкома и Администрации Фрунзенского района?

**Лилия Ивановна МАЛЕВИЧ, пенсионерка.**

ВЗГЛЯД

## Государство должно заботиться не только о спортсменах

*На днях стал невольным свидетелем того, как из подземного переходу станции метро "Пушкинская" выдворяли старушку. Бабушка — божий одуванчик, с трудом передвигающаяся в согнутом (почти под прямым углом) положении, просила милостыню.*

На моих глазах к ней подошел молодой бравый милиционер и потребовал покинуть охраняемую им территорию. Бабулька со вздохом поковыляла к выходу, но наверху моросил дождь, и старушка остановилась. Я не слышал, о чем говорили, понял только, что страж порядка вызвал подмогу. Появился напарник, и на старушку стали "воздействовать" вдвоем. В "подземелье" спускались прохожие с зонтиками. Выдворяемая с территории метрополитена бабушка робко возражала.

Дождь хлынул во всю силу, и, воспользовавшись этим, бабулька повернулась и пошла по направлению к перрону. По всей видимости, решила перебраться на другую станцию. Хлынувший дождь поколебал моральный дух стражей порядка, и преследовать старушку они не стали.

Что и говорить, нищие не украшают город. Только вот изгнание немощных старушек тоже ведь не демонстрирует заботу государства о сирых и убогих. Может все-таки подойти к проблеме с другой стороны. Заставить детей и внуков позаботиться о родительнице. А если родственников нет, то поместить старушку в дом престарелых, чтобы той не приходилось побираться.

Увы, дворцов для неспортсменов в Беларуси почему-то не строят.

**Валерий АЛЕКСЕЕВ.**

РЭЗАНАНС

# Калі праўда вочы коле...

Скандал, які ўспыхнуў у Гродне вакол рэканструкцыі стадыёна "Неман", на месцы якога яшчэ ў 60-е гады мінулага стагоддзя былі яўрэйскія могілкі, доўгі час не знаходзіў свайго адлюстравання на старонках гродзенскіх дзяржаўных газет. У цэнтры скандала апынуліся мясцовыя ўлады, крытыкаваць якія падручным журналістам, па зразумелых прычынах, нязручна. Але газета "Вечерний Гродно", адным з заснавальнікаў якой з'яўляецца гарвыканкам, відавочна, вырашыла парушыць змову маўчання. На мінулым тыдні ў ёй быў надрукаваны артыкул "Вечная тайна", прысвечаны менавіта скандалу, звязанаму з апаганеннем людскіх рэштак. Здавалася б, надышоў час расставіць усе кропкі над "і" і прызнаць памылкі. Але замест гэтага паліваецца брудам "Народная воля", якая першай распавяла пра "хакей на касцях" з удзелам гродзенскіх улад.

Адразу падкрэслю: я не хачу займацца аналізам усіх памылак, якімі стракаціць згаданы артыкул, а затрымаюся выключна на тым, што тычыцца "Народнай волі".

*"В "Народной Воле" 16 августа появился, например, перл о том, что строители используют могильные камни под фундамент. "Во-первых, никаких могильных камней мы не нашли, — свидетельствует главный инженер "Гродногражданпроекта", — а во-вторых, по техническим характеристикам не имеем права закладывать такой материал. Считаю, подобные публикации — чистейшей воды политический спецзаказ с целью давления на страну",* — сцвярджае "Вечерний Гродно"

Пачнем з таго, што артыкула "пра магільныя камяні" ў "Народнай волі" ад 16 жніўня проста няма. Артыкул "Таямніца затынкаванага падмурка" з'явіўся ў нашай газеце тыднем пазней — 23 жніўня. Складаецца ўражанне, што, палемізуючы з "Народнай воляй", Станіслаў Маеўскі, аглядальнік "Вечернего Гродно", нават не прачытаў гэтага артыкула ці ён свядома ўводзіць чытача ў зман. Між тым, артыкул "Таямніца затынкаванага падмурка" распавядае пра гісторыю дома № 18 па вуліцы Квяткo, падмурак якога складаецца з магільных пліт, якія былі ўзяты з яўрэйскіх могілак. Нагадаем, што будаўніцтва дома адбывалася ў сярэдзіне 50-х гадоў. Менавіта тады, па звестках розных даследчыкаў, дзяржаўныя арганізацыі пачалі "ласіцца" камянямі з яўрэйскіх могілак і выкарыстоўваць іх на будаўніцтве. Абараніць магілы ад дзяржаўных вандалаў проста не было каму. Большая частка яўрэйскай абшчыны Гродна загінула ў агні Халакосту, многія з тых, хто застаўся ў жывых, эмігрыравалі, тыя ж, хто жыў у Гродне, былі паралізаваныя страхам. Менавіта ў гэты час у СССР набірала размах антысеміцкая кампанія, звязаная з так званай барацьбой з сіянізмам. Таму няхай застанецца на сумленні аўтара артыкула словы: *"Странно, но 40 лет назад, когда строился стадион, и толики того шума не было".*

Цяпер пра каментарый Рышарда Кацынеля, аднаго з аўтараў праекта рэканструкцыі стадыёна "Неман". Каму, як не яму, ведаць пра тое, хто, калі і як выкарыстоўваў камяні з могілак, бо менавіта ён быў адным з тых, хто руйнаваў яўрэйскія могілкі ў 60-е гады. "Воляй лёсу аказалася так, што я працаваў у будаўнічым упраўленні, якое ў 1963 годзе пабудавала гэты стадыён... Сапраўды, былі тут яўрэйскія могілкі, але па тым часам гэта было праігнаравана", — заявіў "Народнай волі" Рышард Кацынель у красавіку, калі рыхтаваўся першы артыкул на дадзеную тэму. Так што, таварыш Кацынель, чыя б карова мычала... Замест таго каб пакаяцца і папрасіць прабачэння за здзек з памяці тысячаў людзей, Кацынель і яму падобныя бачаць ва ўсім "палітычны спецзаказ" і сусветную змову. Яно і зразумела, гэта значна лягчэй, чым прызнаць свае памылкі.

Ну, і напрыканцы хацелася б параіць рэдактару газеты "Вечерний Гродно" наладзіць для супрацоўнікаў сваёй газеты курсы па павышэнні кваліфікацыі. Можа, тады газеце ўдасца пазбегнуць ляпсусаў кшталту артыкула "Вечная тайна", а яе журналісты даведаюцца, што ўсё патаемнае рана ці позна робіцца яўным.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ.**



КАДРЫ

# Пётр Брыгадзін вярнуўся ў альма-матэр

***На пачатку новага навучальнага года стала вядома пра новае месца работы былога міністра адукацыі Пятра Брыгадзіна.***



Пасля адстаўкі прафесар гісторыі вярнуўся ў родны БДУ. Менавіта Белдзяржуніверсітэт, як заўважае сам Брыгадзін, даў яму калісьці пуцёўку ў жыццё. У свой час Пётр Брыгадзін скончыў гістарычны факультэт, затым універсітэцкую аспірантуру. Працаваў старэйшым выкладчыкам на кафедры гісторыі Беларусі, сакратаром камсамольскай арганізацыі. Шэсць гадоў займаў пасаду прарэктара па навучальнай рабоце і яшчэ чатыры — першага прарэктара БДУ.

Новае прызначэнне адбылося літаральна праз некалькі дзён пасля дня нараджэння Брыгадзіна. Пётр Іванавіч узначаліў факультэт кіравання сацыяльнымі тэхналогіямі. Аднак пакуль рана называць яго дэканам. Справа ў тым, што факультэт у хуткім часе пераўтворыцца ў Дзяржаўны універсітэт кіравання сацыяльнымі тэхналогіямі. Адпаведныя дакументы ўжо знаходзяцца ў Міністэрстве юстыцыі.

Але як ні назаві вышэйшую навучальную ўстанову, нязменным застаецца факт: Брыгадзіна пасля адстаўкі панізілі.

— Я ўжо казаў, што пасада для мяне не мае ніякага значэння, — бадзёра заўважае Пётр Іванавіч. — Калі я пісаў заяву аб адстаўцы, то адразу казаў, што вярнуся ў БДУ.

**— Больш высокую пасаду Вам не прапаноўвалі?**

— Калі б і прапанавалі, я б не згадзіўся. Я жадаю працаваць у той сферы, якую ведаю.

**— Чаму тады пайшлі з паста міністра?**

— Міністэрства адукацыі — складанае міністэрства... Здароўе закульгала. Двух гадоў такой напружанай працы дастаткова. Каманда, з якой я працаваў, засталася...

Між іншым, факультэт кіравання сацыяльнымі тэхналогіямі рыхтуе будучых юрыстаў, менеджэраў і сацыяльных работнікаў.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ПУЛЬС

## Сядзіба ТБМ запрашае

Пачынаючы з чэрвеня, ГА "Таварыства беларускай мовы" аднавіла **пасяджэнні гістарычнага семінара** для моладзі Мінска.

З цікавымі выступленнямі і паведамленнямі аб мінулым і сучасным нашай сталіцы выступаюць вядомыя беларускія пісьменнікі і гісторыкі. Сярод іх **Уладзімір Арлоў, Кастусь Тарасаў, Вольга Іпатава, Віталь Скалабан , Анатоль Грыцкевіч і Захар Шыбека.**

Чарговая сустрэча адбудзецца **8 верасня ў 18.00** ў сядзібе ГА ТБМ па адрасе: **Мінск, вул.Румянцава, 13.** Перад прысутнымі выступіць доктар гістарычных навук **Захар Шыбека**, які распавядзе пра гістарычную тапаграфію і тапаніміку Мінска.

**Запрашаюцца абітурыенты, студэнты і аспіранты з Мінска і бліжэйшых гістарычных ваколіц.**

**Сяргей КАЗЛОЎ.**

## Хочаце візу ў Польшчу?

Генеральнае консульства Рэспублікі Польшча ў Брэсце прыступіла да выдачы віз на бланках новага ўзору.

Як раней паведамляў БелаПАН, з 1 кастрычніка паміж Беларуссю і Польшчай уводзіцца візавы рэжым. Генконсульства ў Брэсце — адна з польскіх консульскіх устаноў у Беларусі, дзе беларусы могуць атрымаць аднаразовую альбо шматразовую візу ў суседнюю краіну.

Як паведамілі БелаПАН у генеральным консульстве Польшчы ў Брэсце, штодня з 9 да 16 гадзін спецыялісты гатовыя абслугоўваць да 200 чалавек.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Якая зарплата ў беларускіх паслоў?

Службовыя аклады кіраўнікоў дыпламатычных прадстаўніцтваў Беларусі ў шасці еўрапейскіх краінах будуць выплачвацца ў еўра.

У ліку пасольстваў, дзе раней зарплата паслам выплачвалася ў доларах ЗША, а цяпер будзе выплачвацца ў еўра, — пасольствы Беларусі ў Аўстрыі, ФРГ, Бельгіі, Італіі, Нідэрландах і ў Францыі. Сума службовых акладаў паслоў вагаецца ад 1800 да 2000 еўра.

**Андрэй СЕРАДА.**

## Э.Хайкен накіраваў ліст міністру юстыцыі

Кіраўнік офіса АБСЕ ў Мінску Эберхард Хайкен накіраваў ліст міністру юстыцыі Беларусі Віктару Галаванаву ў сувязі з сітуацыяй, якая склалася вакол беларускіх няўрадавых арганізацый. Пра гэта паведаміла супрацоўніца мінскага офіса арганізацыі Хайдзі Сміт на брыфінгу.

Паводле яе слоў, офіс АБСЕ пільна сочыць за сітуацыяй вакол няўрадавых арганізацый. Яна адзначыла факт закрыцця гродзенскага грамадскага аб'яднання "Ратуша", папярэджанні Міністэрства юстыцыі грамадскім аб'яднанням "Беларускі Хельсінкскі камітэт" і "Фонд імя Льва Сапегі", а таксама справу аб ліквідацыі праваабарончай арганізацыі "Прававая дапамога насельніцтву".

## Новы старшыня беларускага ПЭН-цэнтра

Агульны сход членаў рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Беларускі ПЭН-цэнтр" абраў вядомага перакладчыка і эсэіста Лявона Баршчэўскага старшынёй арганізацыі. Папярэднім прэзідэнтам ПЭН-цэнтра быў Васіль Быкаў.

Як адзначыў у інтэрв'ю БелаПАН Л.Баршчэўскі, асноўнымі задачамі арганізацыі на найбліжэйшы час стануць абарона свабоды слова і пашырэнне ведаў пра беларускую літаратуру ў свеце.

**Аляксей ШЭІН.**

ПРОБЛЕМА!

# Нет культуры без... культуры

*В этом году из трех республиканских мероприятий, посвященных традиционному искусству и запланированных Министерством культуры Республики Беларусь, ни одно не было проведено. Речь идет о фестивалях "Берагіня", "Палескі карагод" и празднике-конкурсе "Ганчарны круг". На более поздний срок перенесена конференция, которую первоначально намечалось провести в рамках фестиваля "Берагіня". Причина во всех случаях называется одна и та же — отсутствие денег.*

Согласно плану-графику проведения фестивалей и других мероприятий на 2003 год, Министерство культуры финансирует подобные мероприятия на 30—50%. Остальные 50—70% выделяются другими учредителями: облисполкомами, райисполкомами, другими министерствами, привлекаются спонсорские средства. Вот как раз этих 50—70% процентов на проведение упомянутых мероприятий в местных бюджетах и не оказалось. Министерство культуры от своего участия в проведении фестивалей не отказывалось, но заставить область или район провести их не может в силу отсутствия соответствующих рычагов воздействия, а финансирование их в полном объеме со стороны министерства невозможно по причине ограниченности бюджетных средств министерства. Короче и проще: министерство не всесильно.

По просьбе Гомельского и Брестского областных управлений культуры мероприятия, не состоявшиеся в текущем году, будут включены в план на 2004 год. Смогут ли организаторы найти средства на их проведение в год празднования 60-летия освобождения Беларуси от немецко-фашистских захватчиков — большой вопрос. Вполне вероятно, что и в будущем году история может повториться.

Специалисты встревожены: недопонимание на местах, в отдельных регионах Беларуси важности мероприятий, имеющих отношение к традиционной культуре, может обернуться невосполнимыми потерями.

Понятие "традиционная культура" в сознании большинства людей ассоциируется с фольклором, с фестивалями и конкурсами. Поэтому понятно недоумение: ну, не провели эти фестивали, зато провели много других, в чем проблема? А проблема, причем очень серьезная, в следующем.

Традиционная культура — это образ жизни сельского населения. Она включает практически все аспекты: моральные устои, отношение к окружающему миру, трудовые навыки и в том числе так называемую художественную часть — танцы, музыку, песни, ремесла, игры и т.д. Передается она от поколения к поколению, причем именно в той обстановке, где традиция родилась и сохранилась. По своей сути традиционная культура — этот тот фундамент, на котором стоит вся сельская культура, а в конечном итоге — и национальная.

Кстати, о фундаменте. Он может быть разным. Пьянство, воровство, лень тоже могут стать устоявшейся традицией, передаваемой от поколения к поколению. И тогда мы будем говорить о традиционной культуре абсолютно иного толка. Так вот, чтобы этого не было, и ведется работа в области традиционной культуры села, бережно сохраняется то немногое, что осталось, и возрождается то, что еще можно возродить.

По словам председателя Белорусского союза мастеров народного творчества доктора искусствоведения Е.М.Сахуты, фестивали и конкурсы традиционной культуры дают мощный импульс сельскому населению. Когда по инициативе союза мастеров и при активном участии министерства, органов и учреждений культуры начали проводиться праздники-конкурсы народных ремесел, мастера впервые стали героями этих праздников и сельской местности в целом. Что делает человек, когда он видит интерес к своей работе? Он начинает совершенствовать свое мастерство, в нем просыпается профессиональная гордость. Но первостепенное значение имеет уважение односельчан и коллег по ремеслу. Жизнь наполняется смыслом. И люди ждут таких праздников, готовятся к ним порой не один год.

А что делать, когда в итоге оказывается, что вся подготовительная работа была проделана впустую? Именно так и получилось в этом году. Особенно печальная ситуация сложилась с фестивалем "Берагіня", основные участники которого — дети. Взрослые могут, что называется, войти в положение: нет денег, подождем следующего года. Как объяснить ребенку, почему вся его работа, все старания оказались невостребованными?

В Октябрьском районе Гомельской области должен был состояться третий по счету фестиваль "Берагіня". На нем планировалось подвести итоги экспериментального проекта "Танцевальный фольклор и дети", который является частью комплексной межведомственной республиканской программы "Традиционная культура и дети". До последнего момента проблем с фестивалем не было, подготовка шла по плану. Незадолго до события выяснилось — нет средств в бюджетах Гомельской области и Октябрьского района. Но ведь изначально они планировались...

То, что фестиваль "Берагіня" перенесен на следующий год — случай частный, но, тем не менее, случившееся можно назвать еще одним тревожным симптомом, мягко говоря, неудовлетворительного отношения к традиционной культуре.

Министерство может сделать (и делает) много, но...В конце 2001 года штат Министерства культуры был сокращен на 30%. Среди прочих был сокращен и специалист по традиционной культуре. Это не означает, что в Министерстве культуры с легкой душой от него избавились. По стечению обстоятельств у работника заканчивался срок контракта, и в ситуации, когда сокращение штата провести необходимо, проще не возобновлять контракт с сотрудником, проработавшим год, чем увольнять специалиста с куда большим стажем работы, контракт с которым заключен на более продолжительный срок. Но все это связано с одним и тем же — нехваткой средств. Но как бы эта экономия государственных денег не обернулась в будущем большими бедами.

Проблемами культуры занимается не только Министерство культуры. Исследовательскую работу в этой сфере проводят Институт искусствоведения и фольклора Национальной академии наук Беларуси, многие учебные заведения страны, Лаборатория традиционного искусства БелГИПК. Проблемами научно-методического и организационного обеспечения традиционной культуры занимаются областные и районные методические центры; координирует их работу вышеупомянутая лаборатория.

Сотрудники лаборатории — специалисты высокого класса. Но вот проблема — отсутствие элементарного технического оснащения для работы большого масштаба. Звукозаписывающая аппаратура, которой пользуются сотрудники лаборатории, морально устарела лет десять назад, видеоаппаратуры нет вообще. А это означает, что зафиксировать удается далеко не все. Воспроизведение же зафиксированного, мягко говоря, далеко от совершенства. К тому же с каждым годом уменьшается сумма командировочных расходов и, следовательно, сокращаются научные экспедиции.



Тревога специалистов вполне понятна. То, что мы теряем сегодня (уходят из жизни последние носители традиций), завтра уже ничем нельзя будет восполнить. Конечно, традиционная культура — не панацея от всех бед. Так ведь ее в природе вообще не существует, этой самой панацеи. Но традиция — это духовность, которая ограждает человека от многих сложностей жизни и помогает ребенку решать серьезные внутренние проблемы в период становления его личности, в период поиска смысла жизни. Освоение традиционной культуры — важный первый шаг включения в жизнь. Возможно, было бы уделено внимание традиционной культуре десятилетия назад, не говорили бы мы сейчас о том, что деревня спивается, что там никого не осталось. Да и молодежь не мечтала бы о трудоустройстве за границей, а думала бы о том, как здесь, в Беларуси, сделать жизнь лучше.

**Дарья МАЛЬКОВСКАЯ.**
**Фото IREX/ProMedia.**

КРЫМІНАЛ

## Утапіла ў вядры дачку

У горадзе Пружаны 23-гадовая мясцовая жыхарка ў сваёй кватэры нарадзіла дзяўчынку і ўтапіла яе ў вядры з вадой.

Маладая жанчына з пасляродавым крывацёкам змешчана ў бальніцу. Расследаванне вядзе пракуратура Пружанскага раёна.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## П'яная жонка схапілася за нож...

У дзяжурны пакой гарадскога аддзела ўнутраных спраў з вёскі Новыя Рачкавічы патэлефанаваў грамадзянін А. і паведаміў, што, наведаўшы па-суседску дом стрыечнага брата, убачыў яго мёртвым у лужыне крыві.

Пры выездзе на месца забойства супрацоўнікамі аддзела было ўстаноўлена, што пяць дзён таму муж і жонка Ф. селі павячэраць з бутэлькай гарэлкі (магчыма, не адной). Прыняўшы "на душу" лішняга спіртнога, жонка, 1972 года нараджэння, пачала сварку і, схапіўшы са стала нож, нанесла мужу, які на год старэйшы за яе, у спіну некалькі ран з пранікненнем у лёгкія. Той пачаў сцякаць крывёю, аднак "хуткую дапамогу" жанчына выклікаць не стала. Ажно пяць дзён чакала, пакуль муж сканае ад агульнай страты крыві. На думку судмедэкспертаў, своечасова аказаная пацярпеламу медыцынская дапамога была б для яго выратавальнай.

Па факце наўмыснага забойства супраць жанчыны ўзбуджана крымінальная справа.

## Выйшлі хлопцы на начны разбой

Трое маладых случчан, дваццаці, сямнаццаці і шаснаццаці гадоў, распіўшы вечарам некалькі бутэлек спіртнога, вырашылі прагуляцца. Ужо амаль апоўначы ў прыгараднай вёсцы Кляпчаны яны беспрычынна жорстка збілі 37-гадовага мужчыну, які вяртаўся з працы дамоў. А ў палове першай гадзіны ночы ў суседняй вёсцы Івань "троіца" адмалаціла кулакамі і нагамі васемнаццацігадовага навучэнца ПТВ-209. Там жа, крыху пазней, п'янчугі збілі семнаццацігадовага падлетка.

Адшукалі начных разбойнікаў на наступны дзень. Устаноўлена, што старэйшы з іх — рабочы льнозавода, двое непаўналетніх — вучні СШ №№8 і 12 г.Слуцка.

**Мікола КУТНЯВЕЦКІ.**
*г.Слуцк.*

ОСТРЫЙ ВЗГЛЯД

# Смеяться или плакать?

**Константин СКУРАТОВИЧ**



Вы заметили, какую бурную деятельность развил в последнее время А.Лукашенко вокруг проблем сельского хозяйства.

Поначалу он, будто не догадываясь о том, что крестьянам платят мало и нерегулярно, дал увесистого пинка правительству и более низким по рангу вертикальщикам, лишив их постов и психологического комфорта. Правда, ненадолго, поскольку освобожденные от постов лица получили новые, равные или даже более весомые по статусу должности.

А потом пошло-поехало. Традиционное "убрать вовремя и без потерь" сопровождалось приказами-пожеланиями "пересесть с "мерседесов" на серых кобылок", выполнить программы по мясу, сахару и льну. И чего не сделаешь ради таких великих целей — последовал выход на поля в стиле "а ля сапог" по-толстовски в льняных штанах и рубахе, для демонстрации полного единения с народом.

Но картина была бы неполной, если бы Лукашенко не вспомнил о картошке. А вспомнив, поставил задачу возродить экспортный потенциал отрасли. И.о. премьера Сергей Сидорский намек понял и спустил вниз соответствующее распоряжение. Смысл его сводится к тому, чтобы продать хоть Москве, хоть черту лысому один-два миллиона тонн "второго хлеба"...

Услышав такое, не знаешь — смеяться или плакать. Потому что, если брать в целом, то у колхозов и совхозов на самом деле картофеля нет. Начиная с 1993 года, когда в связи с принятием нового Земельного кодекса деревенские жители получили право увеличить площадь подсобных хозяйств до гектара, к ним перешла львиная доля производимого картофеля. А поскольку изменилась и общая ситуация в стране, то колхозы стали отказываться от этой культуры, выращивание которой требует колоссальных материальных и трудовых затрат. В частности, студентов перестали посылать на уборку, а без студентов картошка во многих хозяйствах может остаться под снегом. Чтобы не быть голословными, приведем цифры: в 1985 году из собранных 8,6 миллиона тонн на долю колхозов пришлось 4 миллиона, в 1993 году — менее 3 миллионов из собранных 11,6 миллиона. Вообще пик производства белорусской бульбы пришелся на 1979 год, когда общий урожай превысил 15 миллионов, из которых половину собрали колхозы.

Показатель этот на душу населения в мире высочайший. Было чем гордиться. Но и дело было поистине всенародным. Пожалуй, только солисты оперы да балерины в те годы могли с уверенностью сказать, что в сентябре их не отправят в какой-нибудь "Маяк коммунизма". Остальные таких гарантий не имели. Что говорить, практически все без исключения люди состояли "на государевой службе", и с ними можно было не считаться и не церемониться. А что касается материальных ресурсов, то их тоже было немерено. Бензин и солярка лились рекой, на уборку направлялись армейские автомобильные батальоны, ученые-картофелеводы практически каждый сезон выдавали все более урожайные, устойчивые к заболеваниям, разваристые сорта, промышленность обеспечивала немыслимые запасы удобрений и пестицидов.

Нынче где выйдет на круг центнеров по 120—140, а где и того не будет. Да и с качеством клубней есть проблемы. Следом за колхозами развалился и частный сектор. По разным причинам, но если взять технологический аспект, то частник потерял возможность обновлять сорта, вносить в почву минеральные удобрения, пользоваться средствами защиты (раньше все это он "брал" в колхозе). И теперь, за исключением тех немногих хозяев, которые специально выращивают эту культуру для продажи, настоящего, качественного картофеля нет ни у кого. Повсюду только и слышишь: "Пазалетась вымакла, летась высахла, а сёлета, трасца на яго, каларадскі жук даканаў". Дело дошло до того, что один на самом деле знающий и уважаемый в прошлом картофелевод заявил: "Белорусам надо запретить высаживать картофель. Пока не научатся".

Так что неизвестно, какую такую бульбу собираются продавать высокие начальники.

Но дело, собственно, не в этом. Чтобы это понять, достаточно заглянуть в учебник экономической географии. Картофель в мире выращивается круглый год. Известно, что когда в Северном полушарии зима, в Южном — лето. Поэтому он не закладывается миллионами тонн на хранение и тем более не перевозится поездами и пароходами. Он перерабатывается в полуфабрикаты и готовые продукты в местах производства (зачем воду возить по свету), а свежий картофель доставляется самолетами по заказам ресторанов и прочих предприятий общепита или супермаркетов. Как клубника, ананасы или какие-нибудь устрицы. Даже в Москве уже нет тех гигантских плодоовощных комбинатов, где на пересортице "ковались" подпольные советские миллионы. Что говорить о картофеле, если в московских ресторанах для VIP-персон подают мясо кенгуру, который еще вчера беззаботно прыгала по Зеленому континенту.

Есть примеры и более близкие, и более понятные. Вполне, например, доступны даже среднему белорусу тропические фрукты, цены на которые практически не зависят от сезона. А извлеченная из буртов гнилая и помятая комбайнами белорусская картошка зимой стоит чуть меньше ананаса.

Совсем простая политэкономия...

ЯК ЖЫВЕШ, ГЛЫБІНКА?

# Выміранне...

Пройдзе няшмат часу, і ад таго, што пакуль яшчэ завецца вёскай Мірная, не застанецца нічога. Мірная — гэта рэшткі здавён абжытага кутка на мяжы Віцебскага і Гарадоцкага раёнаў, у Заронаўскім сельсавеце. Калісьці, яшчэ задоўга да мінулай вайны, тут блізка адна да адной, як апенькі, туліліся тры невялікія старажытныя вёскі: Іванова, Варанова ды Худзяні. Падчас узбуйнення "неперспектыўных" населеных пунктаў улады вырашылі аб'яднаць тры вёскі ў адну, надаўшы таму, што атрымалася, ненатуральную, прыдуманую назву — Мірная.

Аб'яднанне вёскам на карысць не пайшло, да таго ж яны даволі доўга супраціўляліся гвалтоўнаму абагульненню: людзі ўсё жылі, працавалі, песцілі зямельку на ўласных сядзібах, трымалі жывёлу. Даўжэй за ўсіх вэндзіла неба дымам комінаў вёска Худзяні. Ды назва яе падвяла. Сямутаму з чыноўнікаў яна падалася немілагучнай, і менавіта замест яе на мапе Віцебскага раёна ўзнікла штучная, сугучная назвам часоў "развітага сацыялізму" — Мірная. Ад былога Іванова застаўся адзін двор, а ў Варанове, дзе яшчэ нядаўна стаяла 9 хат, сёння можна ўбачыць толькі адну, ды і то паўразбураную. На вёску падобныя толькі былыя Худзяні, што афіцыйна завуцца Мірнай, хоць больш дакладнай была б іншая назва — *Марная*. Бо жыхароў тут засталося пяцёра. Як жывуць і пачуваюць сябе апошнія худзянёўцы-мірнаўцы, лёгка зразумець, калі ведаць, што з 18 кароў, якіх раней адсюль ганялі на пашу, засталося дзве.

У Мірную пастаянна завітваюць бамжы ды іншыя басякі, рухомыя прагай да гарэлкі. Яны пільна сочаць, ці не адвернуцца куды гаспадары сядзібы, каб хуценька, непрыкметна зайсці ў хату і вынесці з яе ўсё, што можна з'есці або прапіць. Таму 78-гадовая Марыя Гаўрылава звычайна сядзіць дома, а з двара сходзіць зусім рэдка.

Раней Марыя Ізотаўна разам з мужам працавала ў саўгасе "Заронава". Гаўрылавы жылі заможна: мелі тры кані, дзве каровы, свіней. Цяпер у Марыі Ізотаўны няма і паловы той жывёлы. Ды і адну, апошнюю карову цяжка ўтрымліваць нямоглай бабульцы. Хварэе яна ўсё часцей, а як лячыцца, не ведае. І параіцца няма з кім, бо ўрача ў вёсцы Мірнай даўно не бачылі. Няма звычкі наведваць паўжывую вёску і ў дырэктара саўгаса. Магчыма, ён і не здагадваецца, што аўталаўка заязджае ў Мірную вельмі рэдка, а рэгулярна бывае тут адзін толькі кантралёр "Энерганагляду". Старшыня і сакратар Заронаўскага сельсавета — людзі спагадлівыя, добра ведаюць, як цяжка жывецца мірнаўцам, але дапамагчы ім па-сапраўднаму не ў сілах. Нават кантралёру, што правярае лічыльнік святла, радуецца 84-гадовы жыхар Мірнай, ветэран вайны Уладзімір Карэлін, які любіць гутарыць з новымі, малазнаёмымі людзьмі, дзяліцца ўспамінамі пра франтавое мінулае. Шмат чаго мог бы распавесці Уладзімір Лазаравіч, ды няма каму слухаць.

Карэлін — апошні жывы з 29 тутэйшых яго аднагодкаў, якія пайшлі на фронт. Раней Карэлін дужа любіў чытаць кніжкі ды газеты. Цяпер ён амаль зусім страціў зрок і вельмі хацеў бы атрымаць кансультацыю акуліста. Але да Віцебска сам дабрацца не ў стане. Дапамагчы ж старому ў гэтым няма каму. Дарослыя дзеці раз'ехаліся хто куды, у іх свае клопаты. Адзін толькі сын Фёдар не пакінуў бацьку, жыве разам з ім, але ад гэтага старому не лягчэй, а нават горш, бо 50-гадовы сынок не працуе, а корміцца за бацькаў кошт ды прапівае ягоную пенсію.

Цяпер у вёсцы Мірнай, што раней звалася Худзяні, засталося пяць жыхароў. Працуе з іх толькі пенсіянерка Нюра Сенчанка, якой пашчасціла ўладкавацца ў Заронаве паштальёнкай. Яна тройчы на тыдзень наведвае сваю глухамань, дастаўляе суседзям пошту і пяць экзэмпляраў самых танных газет. Цётка Нюра нарадзіла шасцярых дзяцей, з якіх двое памерлі. Астатнія, дзякуй Богу, выжылі, ажаніліся, і цяпер Ганна Еўдакімаўна мае 12 унукаў і 7 праўнукаў. Усім бы хапіла месца ў вялікай Нюрынай хаце, ды рэдка вялікая радня збіраецца пад дахам фамільнага жытла. Дзеці і ўнукі Ганны Еўдакімаўны Сенчанкі памянялі гаротную, закінутую вёску Мірную на Заронава — цэнтральную сядзібу аднайменнага саўгаса, дзе ўсё ж такі ёсць нейкія даброты цывілізацыі: крама, пошта, аўтобусны прыпынак, нават клуб.



*Пажылая жанчына разбірае закінуты дом на дровы.*

**Фота з архіва IREX/ProMedia.**

А ў Мірнай іншыя прыкметы — знакі вымірання. Больш як 20 гадоў ніхто з гэтай вёскі, што калісьці называлася Худзяні, не ходзіць у школу: дзяцей такога ўзросту тут няма і не прадбачыцца. Унукам і праўнукам Нюры Сенчанкі нават не хочацца думаць пра лёс прасторнай бабулінай хаты. Ніхто з маладых Нюрыных нашчадкаў не хоча жыць у забытай Богам і ўладамі вёсцы Мірнай, куды ніколі не завітае сталічнае начальства, не гаворачы ўжо пра самога "бацьку" або ягоных сяброў з расійскіх сродкаў масавай інфармацыі. Мірная не ўпісваецца ў ружовую карціну ўсеагульнага шчасця, якую намалявала беларускае кіраўніцтва перад расійскімі журналістамі на прэс-канферэнцыі 1 жніўня. А калі б хто-небудзь з гэтых журналістаў сам пажадаў бы наведаць Мірную, улады яго сюды могуць і не пусціць. Бо прыезджы чалавек, які з нейкай прычыны зазірне ў Мірную, убачыць сярод апусцелых, занядбайных сядзіб толькі адну жывую істоту, здольную яшчэ так-сяк, з апошніх сіл, корпацца ў агародзе. Гэта — Ганна Еўдакімаўна Сенчанка — апошні, хто лічыць сябе нашчадкам трох старажытных беларускіх вёсак — Іванова, Варанова і Худзяні...

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

НУ І НУ!

## З білетам БРСМ? Атрымай ільготы...

Мусіць, разуверыліся кіраўнікі Слуцкага гарадскога і раённага камітэтаў БРСМ у тым, што юнакі і дзяўчаты гуртамі стануць пад паходні гэтай новай маладзёжнай арганізацыі, таму кінуліся ў пошукі шляхоў вярбоўкі тых, хто ўвогуле не вельмі жадае, як пісаў калісьці Сяргей Ясенін, "задрав штаны, бежать за комсомол". У мясцовым друку яны сталі даваць абвесткі: маўляў, для членаў гэтай арганізацыі будуць скідкі пры абслугоўванні і набыцці тавараў у шэрагу арганізацый і прадпрымальнікаў, з якімі лідэры камітэтаў БРСМ заключылі адпаведныя дагаворы.

Напрыклад, з білетам "лукамола" ў кінатэатры "Беларусь" можна набыць уваходны білет з 20-працэнтнай скідкай, у прыватных манікюрных і макіяжных салонах — з 10—35-працэнтнай, у басейне калгаса імя Кірава ў вёсцы Казловічы паплаваць можна, маючы білет, з той жа 20-працэнтнай скідкай.

У пералік прадпрыемстваў, якія прадастаўляюць падобныя ільготы, уваходзяць фотасалон, майстэрні па рамонце абутку і нават па вырабе... кватэрных ключоў.

Як бачна, слуцкая "скідачная" акцыя з падачы БРСМ праводзіцца якраз у той час, калі ў краіне паўсюдна ідзе скасаванне розных катэгорый ільготнікаў, у лік якіх трапілі і вельмі заслужаныя людзі нават са званнямі "народны"... Куды ім, "задрав штаны", угнацца за спрытнымі і, пэўна, ужо звышзаслужанымі "лукамольцамі"...

**Мікола КУТНЯВЕЦКІ.**
*г.Слуцк.*

## Спрабуюць вывозіць збожжа

Цяпер на беларуска-украінскай мяжы назіраецца рост сезоннай кантрабанды — правапарушальнікі спрабуюць незаконна вывозіць збожжа з Беларусі. Як расказалі ў прэс-цэнтры Дзяржаўнага камітэта пагранічных войск Беларусі, днямі толькі на ўчастку Пінскага пагранічнага атрада ваеннаслужачыя затрымалі 15 гужавых павозак, нагружаных збожжам. Агульная вага кантрабанднага грузу склала каля 4 тон. Суправаджалі збожжа 15 грамадзян Украіны, якія спрабавалі незаконна перайсці цераз мяжу па-за пунктам пропуску.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## З-за памылкі бухгалтара

Упраўленнем Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржаўнага кантролю Беларусі (КДК) па Гродзенскай вобласці ўзбуджана крымінальная справа ў адносінах да галоўнага бухгалтара ААТ "Слонімская камвольна-прадзільная фабрыка".

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе КДК, крымінальная справа распачата па частцы 2 артыкула 243 Крымінальнага кодэкса (ухіленне ад выплаты падаткаў).

З 1 студзеня 2001 года па 28 студзеня 2002 года бухгалтар пры заключэнні з фізічнымі асобамі — нерэзідэнтамі Рэспублікі Беларусь тавараабменных дагавораў не ўтрымала і не выплаціла ў бюджэт падаходны падатак з кошту адпускаемай на адрас нерэзідэнтаў прадукцыі. Урон, нанасены дзяржаве, ацэньваецца ў 667,5 мільёна рублёў.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

